*Гэты нумар «Маладосці» — чарговае прысвячэнне літаратурнаму конкурсу «БрамаМар», які ладзіцца па ўсёй краіне для студэнтаў ВНУ высілкамі кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ. Таму на вокладцы ў праекце «Прозвішчы» — партрэт Еўфрасінні Леанідаўны Бондаравай, колішняй «гуру» кафедры. Таму тут, у рубрыцы «Ад рукі», — яе рукой праўленая праграма курса. Таму ў гэтым нумары прадстаўлены не толькі мастацкія працы канкурсантаў «БрамаМар», але і артыкулы кафедральных выкладчыкаў.*

*Рэдакцыя часопіса «Маладосць» выказвае падзяку партнёрам — супрацоўнікам і студэнтам кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ, арганізатарам і ўдзельнікам конкурсу «БрамаМар» — і вельмі спадзяецца на ўважлівага і ўдзячнага чытача.*

15.Тэатральны агляд у газетах і часопісах.
16.Кінематограф і друк: праблемы і тэмы ва ўмовах рынку публікацый.
17.Кінарэцэнзія, асаблівасці рэцэнзавання фільмаў: ігравых, дакументальных, тэлевізійных (па матэрыялах прэсы).
18.Кінаагляд, прынцыпы выбару фільмаў для аналізу і абгрунтавання вывадаў.
19.Музыка і СМІ: асноўныя тэмы і формы асвятлення ў сучасных умовах.
20.Праблематыка і жанры публікацый аб выяўленчым мастацтве (з практыкі перыядычных выданняў).
21.Мастацтва на радыё і тэлебачанні ў адлюстраванні прэсы.
22.Духоўнае жыццё РБ у адлюстраванні штотыднёвіка “Літаратура і мастацтва”.
23.Газета РБ “Культура” як тып выдання; асноўныя рубрыкі і жанры публікацый.
24.Беларуская рэспубліканская прэса аб літаратуры і мастацтве (2-3 выданні па выбару).
25.Спецыялізаваныя часопісы Беларусі па літаратуры і мастацтву, іх асаблівасці, тэматыка публікацый.
26.Маладзёжны друк Беларусі аб літаратуры і мастацтве.
27.Культурная спадчына народа ў сродках масавай інфармацыі.
28.Мясцовая прэса аб мастацкай культуры (выданні па выбару).
29.СМІ аб нацыянальнай ідэі ў літаратуры і мастацтве.
30.Праблематыка, формы і жанры асвятлення ў СМІ суверэннай дзяржавы замежнай культуры.
31.Мастацтва постмадэрнізма і публікацыі аб ім.
32.Выступленні дзеячаў літаратуры і мастацтва ў друку: традыцыі, сучасная практыка.